
ISSN 0132-5957

# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

№ 4 (красавік) 2015

## У нумары:

Віктар ЛОЎГАЧ
З АРЫЕНЦІРАМ НА ЕЎРААБСЛУГОЎВАННЕ
Іранеска 1

Наталля КУЛЬГАВАЯ
САЛОДКІЯ АФЕРЫСТЫ
Міні-фельетон 3

ВЕРНІСАЖ
Малюе Алег ПАПОЎ 18




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

# Інтэрнэт: жартуе ўвесь свет

Міні-кніжка



Малюнак Ганны КІСЛУШЧАНКІ.

## Памылілiся

БАР

Ох, нешта я перабраў!

МАГАЗІН

А жонка яшчэ загадала шалік купіць...

Парайце мне, які з гэтых тавараў лепшы?

Прадавец-кансультант

Чаго маўчыце?

Не, вы толькі паглядзіце на яго! Стаіць і ўсміхаецца!

Прадавец-кансультант

Панабіралі ў магазіны статуй!

Прадавец-кансультант

Мужчына, вы нешта хацелі?..

Усё!

Міні-комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА, тэма Браніслава ЗУБКОЎСКАГА.

***Шаноўныя чытачы!***

*Гэта адмысловая міні-кніжка прысвечана жартам, якія пануюць у інтэрнэце.*

*Сённяшні гумар разнастайны, і людзі часта смяюцца, гледзячы на экраны сваіх камп'ютараў, смартфонаў ды іншых модных гаджэтаў. З чаго смяюцца? Ды, па сутнасці, з таго, чаго і раней: чалавечых хібаў і заган, адносін паміж людзьмі, паводзін жывёл, дасціпных карыкатур, анекдотаў, афарызмаў і многага іншага.*

*Паколькі інтэрнэтны гумар пераважна рускамоўны, мы вырашылі не перакладаць яго поўнасцю і пакінуць на мове арыгінала малюнкі ды вывы. Як кажуць, для праўдападобнасці карціны.*

*Таму хутчэй бярыце ў рукі віртуальныя мышкі і – усміхайцеся!*




– Жанчына, гэтая сукенка вас паўніць.

– Ну, дзякуй богу! А то я ўсё на чабурэкі грашыла...

* * *

1 верасня. Вячэрняя размова бацькі з сынам.

– Ну, чаму цябе сёння навучылі ў школе?

– Ды так, нічому. Сказалі заўтра зноў прыйсці.

* * *

– Я быў не п'яны, – апраўдваецца шафёр перад судом. – Толькі выпіў крыху.

– Гэта зусім іншая справа, – пагаджаецца суддзя. – Таму я прыгаворваю вас не да сямі дзён турмы, а ўсяго на тыдзень.

* * *

– Скажыце, мадам, вы выпадкова не заўважылі нумар машыны, якая вас збіла?

– Не. Але я памятаю, што дурніца за рулём была апранутая ў паласаты ваўняны гарнітур, а на галаве ў яе быў блакітны капялюшык, упрыгожаны штучнай вішанькай.

* * *

– Ты задаволены сваім матацыклам?

– Не зусім. Хтосьці з нас дваіх заўсёды на рамонце.

* * *

– Матуля, а чаму пліта такая брудная?

– Тата яечню гатаваў.

– Без патэльні?

**Віктар ЛОЎГАЧ**

Іранеска

# З арыенцірам на еўраабслугоўванне



Загадчыца ўнівермага Клаўдзія Сліўкіна перад пачаткам працоўнага дня тэрмінова сабрала калектыў на пяціхвілінны сход. Грозна паглядзела на прысутных і цвёрда заявіла:

– Так далей працаваць нельга! На кірмашы вясковыя гандляркі куды ветлівейшыя, чым вы. Яны нюхам чуюць пакупніка, дагаджаюць яму. У вас жа што ні кліент, дык скарга.

– Гэта не мы такія, а пакупнікі бескультурныя! – заявіла старэйшая з работніц Ганна. – Мяне не так даўно адна жанчына ледзьве да інсульту не давяла.

– Ці ёсць у вас туфлі-лодачкі італьянскія? – пытаецца.

– Няма і не было, – адказваю.

– А можа, будуць у продажы?

Тут ужо я не сцярпела:

– Ты што, глухая? Кажу ж, няма і не было, значыць, і не будзе!

– Вы абражаеце кліента, паскарджуся! – залямантавала тая.

– На здароўе, – чмыхнула я...

Не стрымалася і Марына, самая малодшая з прадаўшчыц:

– Нядаўна ў мяне адзін пакупнік «Ландыш серабрысты» пытаўся. Гэта ён такія духі жонцы да дня нараджэння выбраў. Дык я яго і прысароміла: маўляў, мужчына, не скнарнічай, бяры французскія!

А ён надзьмуўся, як індык, ды кажа:

– Павучаць яшчэ будзеце! – і, нібы корак з бутэлькі, выскачыў з універмага...

– І ў мяне падобныя кліенты былі! – падала голас прадаўшчыца Адэля. – Памятаю...

– Годзе! – крыкнула загадчыца ўнівермага Клаўдзія Сліўкіна. – Патрабую, калі і абражаюць, не звяртаць увагі. Вы павінны ўсміхацца, быць ветлівымі з кліентамі, старацца ім дагадзіць і дзякаваць за пакупку. Усё, як у Еўропе.

Была адзінаццатая гадзіна дня. Нецярплівыя пакупнікі настойліва забарабанілі ў дзверы.

– Адчыняйце! Працоўны дзень даўно пачаўся.

Клаўдзія Сліўкіна не стрывала такога нахабства:

– Вы чаго дзверы ламаеце? Адчынімся, калі сход закончым! Камандуюць тут!..

Ва ўнівермазе пачынаўся новы дзень з арыенцірам на еўраабслугоўванне.




*Гомельская вобласць, г. п. Акцябрскі.*





Мария Ивановна, ГДЕ ЗАРПЛАТА?! Я ОТПРАВИЛ ВАС В БАНК 5 ЧАСОВ НАЗАД!

Я работаю на полставки, кричите на меня вполголоса.

ГдЕ ЗаРпЛаТа?!

Вот если бы у тебя был выбор, куда бы ты ходил по утрам? В школу, универ или на работу?

В садик.

Какое у тебя хобби?

Еда

Готовишь?

Ем

Здаров бро, как у вас погода там? Скоро приеду!

Да вообще ништяк!



Пожалуй задержусь до весны 😊

**Мікалай МАЛЯЎКА**

## РУКА



Рука ляжала на стале
Спакойна, ціха, у цяпле.

Заходзіў чын ад капіталу –
Рука насустрач узлятала.

Не падабалася размова –
Рука падрыгвала нервова.

Як адчужэння першы знак,
Рука сціскалася ў кулак.

Нічога, бачыла, не злупіш –
Рука круціла з пальцаў кукіш.

Пра Божы суд нагадваў вернік –
Рука паказвала на дзверы.

Мяняюць лад жыцця вякі,
А мы ўсё ходзім да Рукі.

## ДЫЯЛОГ






– Помніш, як спявалі разам,
Пахмяляліся – не квасам?

– Час не той, не тыя песні.
Як жывеш, браток, на пенсіі?

– Ат, ні песень тых, ні часу!
Я хмялею ўжо ад квасу.

– Дажываем век, браток,
Часу – на адзін глыток.




Малюнак
Міколы ГІРГЕЛЯ.




**У каго мядовы месяц, а ў каго — бядовы.**

Ён вельмі любіў вучыцца. Таму ў кожным класе сядзеў па два гады.




**Дзеці бізнесмена жылі, як сыр за пазухай.**

Яму заўсёды падабаліся кніжкі. Асабліва — ашчадныя.

**Корміць птушак не кожны, птушынага ж малака карціць паспытаць многім.**

Чалавек смяецца скрозь слёзы, а птушка — спявае.

**Даслаў Мікола ПАДАБЕД,**
*Магілёўская вобласць,*
*г. п. Бялынічы.*

## Сямейнае жыццё ў карцінках

Міла і Сяргей – звычайная сямейная пара. Ён любіць займацца домам і гатаваць, яна – чытаць кніжкі і эсці. Аб'ядноўвае маладых людзей кот, а таксама захапленне серыяламі.

Вось некаторыя гісторыі з іх паўсядзённага жыцця, якія яны адлюстравалі ў коміксах.

### Сакрэт прыбранага пакоя




### Зіма праходзіць прыкладна так






# Салодкія аферысты

*Міні-фельетон*

Людзі аздараўляюцца, як могуць. Адны выкарыстоўваюць медыцынскія сродкі — розныя таблеткі, мікстуры, вітаміны. Другія ж упэўнены: няма нічога лепшага за народныя метады лячэння, і выступаюць толькі за натуральныя прадукты — зборы траў, настоі, адвары. Але ўсе яны пацвердзяць, што мёд карысны і амаль нікому не прынясе шкоды.

Аднак у апошні час якасць гэтага прадукту пагоршылася. І ад лячэбных уласцівасцей амаль нічога не засталося. Канешне, ёсць яшчэ пчаляры, якія прадаюць якасны мёд, але такіх людзей з кожным годам становіцца ўсё менш.

Пацвярджаюць статыстыку і праверкі, якія праводзяцца на шматлікіх кірмашах мёду ў розных гарадах краіны. Сёлета ў лютым супрацоўнікі Міністэрства гандлю Рэспублікі Беларусь і Камітэта дзяржкантролю Рэспублікі Беларусь наведаліся на дзевяць падобных мерапрыемстваў. Потым яны расказалі:

— Пабываўшы на кірмашах «Свет мёду» і «Усходняя казка» ў Гродне, мы вымушаны былі іх увогуле зачыніць. У ходзе агляду выявілі шэраг парушэнняў, было знойдзена ажно 240 кілаграмаў лячэбнага прадукту без належных дакументаў, якія б пацвярджалі яго якасць.

На нашым рынку ўсё часцей з'яўляецца мёд з рознымі дабаўкамі, разбаўлены ці нават з антыбіётыкамі. Спецыялісты Дэпартамента ветэрынарнага і харчовага нагляду Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь заяўляюць:

— Прывозяць такі няякасны прадукт з Расіі і Малдовы. Чаго толькі ў яго не дамешваюць: патаку, сахарозу, крухмал, тэхнічную глюкозу, муку, жэлацін і іншае! Ды і называюць гатункі мёду, як душа пажадае. Звычайны лугавы ў імгненне вока, напрыклад, можа стаць алтайскім горным.

Самае крыўднае, што выявіць, дзе мёд натуральны, а дзе падробка, цяжка, а часам увогуле амаль немагчыма (толькі з дапамогай спецыяльнай экспертызы).

Напрыклад, у снежні 2013 года спецыялісты праверылі мёд, які прадаваўся на сталічных кірмашах. Вынік аказаўся несуцяшальны: з дзевятнаццаці адабраных проб толькі шэсць адпавядалі стандартам якасці і заяўленай назве. Сумна, вядома, але за 2014 год нічога не змянілася...

Ёсць такая прымаўка: еш мёд ды сцеражыся джала. Цяпер жа варта быць яшчэ больш уважлівымі, каб не трапіць на «салодкіх» аферыстаў.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**

*Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь, інфармацыйнага парталу tut.by.*



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

## Крыху мужчынскай філасофіі




## Сто рэцэптаў прыгажосці



## Лідзія АНДРЭЕВА




Крумкач усеўся на галіне.
Бабёр унізе, на плыце,
Крычыць: «Гэй! Дрэва хутка згіне,
Бо карані ўсе – у вадзе!»

Крумкач сваю спявае песню:
«Ў рацэ жывеш – твая бяда».
І вось аднойчы напрадвесні
Ураз рашыла ўсё вада.

І дрэва рухнула нарэшце,
Гняздо з нашчадкамі сплыло.
Бабёр нырнуў дзяцей адвесці,
А хаты... Быццам не было.

*г. Горкі.*






Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.







Малюнкі Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэмы Міхася СЛІВЫ.




*Іранічныя прынцыпы і законы жыцця, названыя імёнамі людзей, што іх адкрылі*

Суседняя чарга заўсёды рухаецца хутчэй.

*Назіранне Этарэ*

Калі нічога іншага не дапамагае, прачытайце нарэшце інструкцыю!

*Аксіёма Кана і Арбена*

Пачынаць пошукі трэба з самага непадыходзячага месца.

*Закон пошуку*

Заўсёды не хапае часу, каб выканаць работу як след, але на тое, каб яе перарабіць, час знаходзіцца.

*Закон Мескімена*

Рашэнне складанай задачы даручайце лянівому супрацоўніку – ён знойдзе больш лёгкі шлях.

*Закон Хлэйда*

Тым, хто любіць каўбасу і паважае закон, не варта бачыць, як робіцца і тое, і іншае.

*Каўбасны прынцып*

Насця мыла посуд пасля вячэры. Муж Алег глядзеў тэлевізар у суседнім пакоі, а побач з ім трохгадовы сын Косцік нешта старанна будаваў з канструктара. Нечакана ў яе заспяваў мабільны тэлефон.

— Добры вечар, Іначка, — павіталася Насця.

Скрозь слёзы і ўсхліпы сяброўка неразборліва спытала:

— Можна, я зараз да цябе прыйду?

— Канешне, чакаю, — тая ажно спужалася.

Іна жыла ў доме на некалькі паверхаў вышэй, таму літаральна праз пяць хвілін у дзверы пазванілі. На парозе з нагі на нагу пераступала заплаканая сяброўка.

— Распранайся і пайшлі на кухню. Я гарбату заварыла, будзем табе настрой падымаць, — Насці карцела даведацца, што здарылася.

— А ты смяяцца не будзеш?

— З чаго?

Іна ўздыхнула і зняла шапку. Былыя цёмна-каштанавыя валасы мелі яркае рудое адценне, ды і стрыжка была нейкая дзіўная, быццам выскубленая.

— Ты бачыш, што ў цырульні са мной зрабілі? Навошта я захацела змяніць знешнасць?




Выпіўшы гарбаты, яна расказала, што вырашыла крышку асвятліць валасы і заадно падстрыгчыся. Але вынік атрымаўся зусім не такім, як Іна ўяўляла.

— Ну, усё не так дрэнна, — супакоіла сяброўку Насця. — Ты толькі не перажывай. З адной маёй знаёмай здарылася падобная сітуацыя. Можна падаць скаргу ў мясцовы выканкам на нездавальняючую якасць паслуг цырульні. Трэба мець адпаведныя квітанцыі, а таксама наведаць эксперта, які правядзе тэсты на якасць прычоскі.

Іна зацікавілася:

— І так сапраўды можна? Я думала, што калі падстрыглі — больш нічога не зробіш, валасы ж назад не прыклеіш!

— Не, можна. Вось толькі каштуе такая экспертыза нятанна: ад ста тысяч да больш за мільён рублёў.

На кухню зайшоў Алег. Паглядзеў на Іну і здзіўлена сказаў:

— Ух ты! Якая яркая стала!

Тая зазззяла:

— Праўда?

— Праўда! Я чуў гаворку. Думаў, у цябе немаведама што на галаве! У каторы раз упэўніўся: у жаночай прыродзе закладзена ўсё перабольшваць, — знарок закаціўшы вочы, сказаў мужчына.

Жанчыны засмяяліся. Алег наліў сабе гарбаты і вырашыў змяніць тэму размовы, каб Іна больш не сумавала з-за новага вобраза.

— Вы ведаеце, што ў нашай краіне прыняты новы «Рэестр бытавых паслуг», і ўвогуле гэтая сфера дзейнасці будзе ўдасканальвацца? Хутка зацвердзяць новыя правы і абавязкі прыёмшчыкаў, выканаўцаў і спажыўцоў бытавых паслуг.

— А што зменіцца? — спытала Іна.

— Напрыклад, я працую ў фотаатэлье. Раней сфатаграфаваў, раздрукаваў здымак, аддаў кліенту — і ўсё. Можна выдаляць з камп'ютара кадр, каб не перашкаджаў працы. Цяпер так рабіць нельга. Фота павінна захоўвацца два месяцы, прычым як ужо надрукаванае, так і ў электронным выглядзе, — паведаміў Алег.

— Памятаеш, ты яшчэ гаварыў, што трэба рабіць, калі забіраеш бытавую тэхніку з рамонту? — падтрымала размову Насця. — Напрыклад, прыходзіш у майстэрню па прас. Табе абавязкова мусяць яго ўключыць і паказаць, як ён працуе.

*Працяг на стар. 6.*



## ЗАХАД СУПРАЦЬ УСХОДУ

Мастачка Ян Ліу пражыла ў Кітаі да 14 гадоў, потым пераехала ў Германію. Яна стварыла серыю мінімалістычных ілюстрацый, у якіх лаканічна адлюстравала адрозненні Захаду і Усходу.

Злева ў сінім квадраце паказаны асаблівасці паводзін заходняга чалавека, справа ў чырвоным квадраце — усходняга.

Дарэчы, нават без гэтых тлумачэнняў вы нічога не пераблытаеце.

Свабода самавыяўлення



А то без гэтага, быццам ката ў мяху забіраеш... Даказвай потым, што ты яго сам не зламаў.

— Я заўсёды так раблю. Усё-ўсё правяраю, — адзначыла Іна. — Нядаўна вось калега паехала з мужам кухню купляць. Шчаслівыя, прывезлі дамоў, паднялі на пяты паверх, пачалі распакоўваць, а яна не таго колеру. Потым дакаралі сябе, што не паглядзелі адразу. Але самі вінаватыя!

— Цалкам з табой згодны. Часта заказчыкі і спажыўцы альбо не ведаюць, чаго хочуць, ці з-за сваёй няўважлівасці пакутуюць, — падтрымаў яе мужчына.

— Гэта ў нас у горадзе так. У вёсках — цяжэй. Адміністрацыя раёна сама вырашае, якія паслугі комплексны прыёмны пункт можа прадставіць, а якія — не. Калі майстэрня па рамонце абутку ці швейнае атэлье не будуць акупляцца, выгадней звярнуцца да выязнога абслугоўвання... — адзначыла Іна.

У дзвярах паказаўся Косцік:

— Мама, я спаць хачу.

— Зараз-зараз, ідзі пакуль канструктар збяры і будзем адпачываць, — сказала яму Насця.

— Вы прабачце, што вось так да вас прыйшла. Але не магла ўжо на сябе ў люстэрка глядзець... Не пайду рабіць экспертызу. Заўтра завітаю ў цырульню, параўняю прычоску. А колер пакіну такім. Калі нават Алег, фатограф, сказаў, што я стала яркая, чаму б не застацца рыжай? — настрой у Іны палепшыўся.

— Толькі абыдзіся без эксперыментаў са стрыжкай, бо зноў давядзецца цябе супакойваць, — усміхнулася Насця, калі сяброўка апранілася.

— Не, не буду, мне сённяшняга хапіла. Да пабачэння, і яшчэ раз дзякуй за гарбату.

Насця зачыніла дзверы і пайшла класці спаць сына. Але ў галаве яна ўжо прыдумляла, што скажа заўтра Іне, калі тая зноў будзе незадаволена прычоскай.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 5.*



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.



Малюнак Пятра КОЗІЧА.

Узровень шуму ў кафэ і рэстаранах



Адносіны з кіраўніком



**Вольга САКАЛОВА**





### Справядлівасць

Няма ні золата, ні срэбра –
Рублі ў кішэні шамацяць.
Багацце ўсё жыццё прыгрэбла,
Мо, каб бяднейшаму аддаць?

### Прафілактыка

Трэці дзень мяне, як грушу,
Нейкі грып трасе сучасны.
Праспіртаванаму ж мужу
Аніякі чорт не страшны.

### Грашовы непакой



Лічыла заўчора
Унучка уборы,
Пры гэтым шаптала:
– Як мала, як мала...

Лічыла бабуля
Пенсійныя «дулі»,
Пры гэтым крахтала:
– Так мала, так мала...




Не прыйдуць да згоды
Даходы-расходы.
І тут непакой
У кожнага свой.

*г. Мінск.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Валянціны КАСЯК.




Малюнак Міхася ДАНІЛЕНКІ.

Падыход да рашэння праблем



Стаўленне да надвор'я






Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Валянціны КАСЯК.




Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.







**Прывітанне, калючы дружа!**

Ідучы па сталічнай вуліцы Якубоўскага, заўважыў шыльду, на якой красаваўся надпіс «Цырульня». Побач, на іншай шыльдзе, пазначаны час працы гэтай установы. Прыгледзеўся ўважліва: дошкі афармленыя на дзвюх мовах – беларускай і рускай! Прычым на другой вывесцы яшчэ была дапушчана памылка ў слове: «выходнои».

Як вядома, у нашай краіне дзяржаўнымі з'яўляюцца дзве мовы. Але калі выбіраеш адну з іх, то трэба выконваць усе яе нормы і правілы. Тым больш, што шыльда – гэта «твар» установы.

А як лічыш ты, калючы сябар?

суббота
9.00 - 19.00
выходнои
воскресенье

**Цімафей ДУБІНА,**
*г. Мінск.*




Хто рана ўстае, той... усіх будзіць, грукае дзвярыма, шуміць чайнікам і гучна тупае.

* * *

– Скажыце, які камень вас ахоўвае?

– Які схаплю, такі і засцерагае.

* * *

На той мове, на якой пішуць дактары, машыністы прыгарадных цягнікоў аб'яўляюць прыпынкі.

* * *

– Мілы, а дзе мой велатрэнажор?

– Я яго выкінуў. Надакучыла ілюзія таго, што ты едзеш-едзеш і нікуды не з'едзеш!

* * *

5 слоў, якія цяжэй за ўсё вымавіць:

1. Сінхрафазатрон.
2. Фенолфталеін.
3. Дыхлордыфенілтрыхлараэтан.
4. Бензолсульфахларыд.
5. Прабач.

* * *

Прадавец-кансультант Марына, спытаўшы «Ці магу я чым-небудзь дапамагчы?», нават не ўяўляла, што ёй давядзецца саджаць бульбу...

* * *

– Мая жонка вельмі хоча пахудзець. Ужо цэлы месяц яна рэгулярна ездзіць вярхом.

– І як поспехі?

– Конь схуднеў на дзесяць кіло.

* * *

Мядзведзь прачнуўся ў сакавіку. І толькі для таго, каб уцяпліць бярлог.

* * *

Сашу падарылі цацачны набор доктара.

У ката пачалося новае жыццё з цяжкавылечнымі хваробамі.

## ВЯСКОВЫЯ ЖАРЦІКІ



Малюнак Пятра КОЗІЧА.

### Дзейсная дыета

Вы думаеце, што скінуць дзесяць кілаграмаў за тыдзень нерэальна? Прыязджайце ў наш калгас працаваць паляводам!

### Задачка

У Максіма дванаццаць яблыкаў, у Антона – дзесяць, у Кірыла – соль. Пытанне: хто апошнім уцякаў ад вартаўніка?

### Ганьба



Вясковы радыёвузел перадае:

– Камбайнёр Іван Пташук – ганьба ўсяго калгаса. Толькі два цэнтнеры з гектара! Паўтара з іх – сам Пташук.

### Майстар сваёй справы

Самым відушчым вартаўніком прызнаны Федзя Гаўрылаў з таварыства «Наперад», які ў беспрасветнай цемры можа разліць самагон у чаркі дыяметрам чатыры сантыметры і не змарнаваць пры гэтым ні кроплі.

### Прафарыентацыя

Хочаце адцягнуцца з клёвымі цёлкамі па поўнай праграме? Вас чакаюць вакансіі ў калгасе «Светлы шлях»!

### Рашэнне

У мінулым годзе мы пасадзілі 100 гектараў бульбы – з'еў каларадскі жук. Сёлета – 200 гектараў, але ён зноў усё падчысціў. Наступным разам пасадзім ажно 300 гектараў – няхай падавіцца!

### Недасяжная пасада

Лепш за ўсіх у гаспадарцы працаваў конь Віхрасты. Але старшынёй так і не стаў.

### Агульнае

– Што агульнага паміж калгаснай рэвалюцыяй 30-х гадоў XX стагоддзя і культурнай рэвалюцыяй пачатку XXI стагоддзя?

– У 30-я гады серадняк пайшоў у калгасы, а сёння – ва ўніверсітэты.

### Зусім розныя



Размова двух сяброў з розных вёсак.

– Як ваш старшыня?

– Нічога сабе, а ваш?

– А наш – усё сабе!..

**Даслаў Канстанцін КАРНЯЛЮК,**
*г. Віцебск.*

---

БРАК ДЕРЖИТСЯ НА ТЕРПЕНИИ. ПРИЧЕМ КАЖДЫЙ ИЗ СУПРУГОВ УВЕРЕН, ЧТО ТЕРПИТ ИМЕННО ОН.

6 САМЫХ ОЖИДАЕМЫХ СОБЫТИЙ ФЕВРАЛЯ:

1. МАРТ
2. АПРЕЛЬ
3. МАЙ
4. ИЮНЬ
5. ИЮЛЬ
6. АВГУСТ




ВСЕ МАРКЕТОЛОГИ И МЕРЧЕНДАЙЗЕРЫ МИРА БЕССИЛЬНЫ ПРОТИВ МУЖИКА СО СПИСКОМ ПОКУПОК.







Ці бачылі вы калі-небудзь жывыя аўтамабілі? Калі не, то зірніце на фота. Гэтая прыгожая машына сцвярджае, што нарадзілася ў 1991 годзе. Яна адзінокая, таму шукае новага гаспадара. Для зацікаўленых ёсць нумар мабільнага. Тэлефануйце — і машына вам абавязкова адкажа!

**Яўген КАЛЮЧЫ,**
*г. Мінск.*






Малюнак Пятра КОЗІЧА.



Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




14 ЛЕТ — «КАКИЕ ТВОИ ГОДЫ, ЕЩЕ УСПЕЕШЬ НАГУЛЯТЬСЯ».
18 ЛЕТ — «ВОТ ОТУЧИСЬ, ПОТОМ ГУЛЯЙ!»
25 ЛЕТ — «СДЕЛАЙ КАРЬЕРУ И ГУЛЯЙ СКОЛЬКО ХОЧЕШЬ».
30 ЛЕТ — «ХВАТИТ ГУЛЯТЬ, ПОРА ОСТЕПЕНИТЬСЯ!»

— СКАЖИТЕ, КАК ПО ДЕРЕВУ МОЖНО УЗНАТЬ, ГДЕ СЕВЕР, А ГДЕ ЮГ?
— Я ВАС УМОЛЯЮ. ЕЛКА — СЕВЕР, ПАЛЬМА — ЮГ.

ЧИТАЯ ВРАЧЕБНЫЙ РЕЦЕПТ ВСЛУХ, МОЖНО ВЫЗВАТЬ ДЬЯВОЛА.

Мікалай ГЛЕБ

# Мільённы пасажыр

Ўранеска

— Ваш білет на палёт? — ветліва спытала дзяўчына ў фірменнай пілотцы на кантролі ў аэрапорце.

— Калі ласка, — паказаў я дакумент.

Яна зірнула на яго, ахнула і паклікала калегу. Тая таксама змянілася ў твары, узяла білет, кудысьці знікла.

«Вось уліп!» — спужаўся я.

Праз хвіліну да мяне падышлі двое мужчын у форме грамадзянскай авіяцыі і сказалі:

— Пройдзем з намі.

— Куды? — чамусьці шэптам спытаў я.

Адзін з іх паказаў на дзверы з надпісам «Начальнік аэрапорта». У галаве адразу завіравалі думкі: «Няўжо заўважылі? Што цяпер будзе! Можа, паспрабаваць збегчы?»

Але мне ўжо адчынілі дзверы.

— Гэта ён, — паведаміў другі мужчына. — Білет супадае з нумарам.

Начальнік аэрапорта выйшаў з-за стала і пацікавіўся:

— Далёка ляціце?

Я кіўнуў галавой.

— Дык вось... — працягнуў ён.

— Прабачце мне! Я не вінаваты, — мае нервы не вытрымалі.

— Супакойцеся! — перапыніў той. — Вядома, якая ваша віна? Дазвольце павіншаваць! Вы — мільённы пасажыр, што вылятае з нашага аэрапорта.

І тут начальнік працягвае турпуцёўку ў фінскія Канціалахці.



Знерваваны, але шчаслівы, я выйшаў з кабінета. Усё ж наш тэхнік Сямён малайчына: даў мне свой студэнцкі білет. А шэф яшчэ казаў, што ў мяне не атрымаецца злятаць за мяжу за паўцаны...

*г. Ляхавічы.*





Малюнкі Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.





Чем ты на работе занимаешься?

Прихожу и начинаю считать до пяти!

А что потом?

А в пять у нас рабочий день заканчивается.

Прими мои искренние поздравления, мой мальчик. Я уверен, что сегодняшний день останется у тебя в памяти как самый счастливый день в твоей жизни!

Спасибо, пап, конечно, но свадьба будет завтра!

Я знаю, что говорю!

Это правда, что ты тачку выиграл в лотерею?)))

Правда) только не тачку, а квартиру, и не в лотерею, а в покер, и не выиграл, а проиграл.

Пап, ну и как оно, иметь такого красивого и умного сына?

Не знаю, сынок. Спроси у дедушки.

Міхась СЛІВА

## ЖУРНАЛІСЦКІЯ БЫЛІ

### І ад смеху бывае не да смеху



Так кажуць у народзе. У справядлівасці гэтага выказвання і мне давялося пераканацца.

Сустракаю аднойчы сваю былую аднакласніцу. Яна скардзіцца:

– Што табе дрэнннага зрабіла?

– Нічога... – збянтэжыўся я.

– Дык навошта ты напісаў у газеце, нібыта раней часу сыходжу з работы?

У адказ я рассмяяўся. Бо ўспомніў, што напісаў фельетон зусім пра іншы магазін, дзе, як заўважыў, прадаўцы раней часу пакідаюць свае рабочыя месцы ў канцы дня, а застаецца ўсяго адзін з іх...

– Слухай, – пытаюся ў аднакласніцы, – а дзе ты працуеш?

– У магазіне (называе нумар).

– Вось бачыш, – кажу далей, – гэта ж я пісаў пра іншых гора-работнікаў. А ты падумала, што пра цябе. Як кажуць, на злодзеі шапка гарыць!

І такіх выпадкаў нямала.

Крытыка, сатыра – справа няўдзячная. Вось пакрытыкавала наша газета работу адной арганізацыі, дзе кіраўнік сярэдняга звяна ў перыяд водпуску дырэктара выконваў яго абавязкі. Пакрытыкавала заслужана, тым не менш чалавек вельмі пакрыўдзіўся. Праязджае міма на аўтамабілі і робіць выгляд, што не заўважае, як ты яму махаеш рукой: «Падвязі!»

Дарэчы, быў выпадак, калі кіраўнік гаспадаркі (цяпер ужо на пенсіі) пагражаў нават расправай аўтару крытычнай заметкі аб безгаспадарчасці. Хоць крытыка была справядлівая...

Як кажуць, гумар – справа сур'ёзная. Не кожны яго разумее, тым больш, не кожнаму падабаецца крытыка. Таму і даводзіцца журналістам выкарыстоўваць розныя псеўданімы.

### Карова Кветка

Па заданні галоўнага рэдактара я наведаў малочнатаварную ферму аднаго з аддаленых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў раёна. Гаспадарка была слабаватая, тым не менш, на ферме знайшлася і карова-рэкардсменка. Старшыня прафсаюзнага камітэта, штодзённа падводзячы вынікі работы аператараў машыннага даення, адзначыў у лістку-«маланцы», што найбольшы па тым часе сярэднесутачны надой атрыманы ад каровы па мянушцы Кветка – 23 літры.

У матэрыяле, падрыхтаваным пасля паездкі ў гаспадарку, я захацеў падкрэсліць, як на ферме наладжана спаборніцтва паміж жывёлаводамі, ёсць галоснасць у рабоце, усе ведаюць, хто ідзе наперадзе. Напісаў, што менавіта карова Кветка дала за дзень 23 літры малака. Напісаў і паехаў па новым заданні...

Работніца рэдакцыі, якая набірала мой артыкул, звычайна карысталася акулярамі, але ў той дзень за-

## Вясёлыя жывёлы

Інфармацыйнае агенцтва «Rex USA» спецыялізуецца на фотаздымках для прэсы і вядомае сваім велізарным архівам, у тым ліку – выявамі жывёл.

Па меркаванні вучоных, пачуццё гумару – адметная рыса інтэлектуальна развітай свядомасці, не ўласцівай прадстаўнікам фаўны. Аднак такія фотаздымкі прымушаюць у гэтым сумнявацца.





былася іх дома. І нейкую кляксу, якая немаведама адкуль з'явілася перад лічбай 23, палічыла за лічбу 3. У выніку атрымалася 323 літры — надой малака ад каровы за дзень! Я матэрыял на паласе прачытаць не змог, бо знаходзіўся ў ад'ездзе.



З такім ляпсусам і выйшла ў свет наша газета. Што тут пачалося!.. У той жа дзень чытачы сталі званіць: хто здзіўлена ўдакладняў, хто яхідна павучаў, а хто проста строіў кепікі. Асабліва даймаў адзін былы раённы начальнік, які ў свой час працаваў у сельскай гаспадарцы, а цяпер быў нераўнадушны да галоўнага рэдактара газеты, бо той аднойчы «наступіў яму на мазоль».

Так працягвалася больш як месяц. І хоць я быў тут зусім не вінаваты: гэтага не пісаў, да таго ж адсутнічаў, калі рыхтаваўся нумар газеты, матэрыял чыталі і карэктар, і адказны сакратар, і сам галоўны рэдактар, — як аўтар усё роўна нёс адказнасць. Таму галоўны рэдактар на працягу амаль года пачынаў і заканчваў нашы планёркі-пасядзелкі са славутай каровы Кветкі, якая «дае» 323 літры малака ў суткі.

## «Гэта ж і пра мяне!..»

Апублікаваў я аднойчы фельетон пра начальніка вузла сувязі, які, каб не абцяжарваць сябе лішнімі клопатамі, не падымаў тэлефонную трубку, калі яму хто-небудзь званіў. Трубку брала яго сакратарка і заўсёды ветліва адказвала: «Начальніка пакуль што няма на месцы», «Начальнік выйшаў» або «Начальнік яшчэ не прыйшоў»...

Фельетон быў безадрасны, тым не менш, начальнік раённага вузла сувязі ў нашым горадзе, хоць і працаваў добра, пачаў хвалявацца. Я быў з ім у сяброўскіх адносінах, супакоіў, што, маўляў, гэта не пра яго, а для прафілактыкі, бо такое часам яшчэ сустракаецца ў іншых арганізацыях і ўстановах.

І вось аднаго разу начальнік раённага вузла сувязі быў па службовых справах у свайго калегі ў суседнім раёне. Той стаў абурацца, паказваць газету з фельетонам: «Вось нейкі нягоднік напісаў пра мяне! І адкуль ён ведае, як я працую?! Ну, няма чаго граху таіць, было некалькі разоў, калі прасіў сакратарку сказаць надакучліваму грамадзяніну, што начальнік на нарадзе, каб не дурыў галавы...»

«Не хвалюйся, — супакоіў яго мой знаёмы, — я ў свой час таксама думаў, нібыта напісана пра мяне. І маё ж рыльца ў пушку, але з аўтарам сябрую і дакладна ведаю, што гэта не пра нас!..»



*«Жыццё на Парнасе», Мн., 2014 г.*







# САМЫЯ ЛЕПШЫЯ ЛЕКІ



Кнігарня «Вожыка»

*На пачатку гэтага года пабачыла свет новая кніга гумару вядомага пісьменніка, гумарыста Віктара ЛОЎГАЧА пад назваю «Гумар «на пасашок». Ва ўступе да яе аўтар адразу патлумачыў сваю задуму:*

*«Звычайна пасля застолля, калі госці збіраюцца разысціся па дамах, чуваць:*

*– На пасашок!..*

*А я, мае шаноўныя чытачы, прапаную пасля працы і знямогі, у час адпачынку, сказаць з іншым сэнсам «На пасашок!» і замест спіртнога «ўжыць» гумар. Ён вам і настрою прыдасць, і на здароўе станоўча паўплывае. Бо самыя лепшыя лекі – з гумарыстычнай аптэкі...»*

*Цяжка не пагадзіцца з такім меркаваннем!*

*У чацвёртую па ліку кнігу гумару Віктар Лоўгач уключыў і новыя творы, і тыя, што былі надрукаваныя ў часопісе «Вожык». Чытачы пазнаёмяцца з гумарэскамі і іранескамі, байкамі ў прозе, усмешкамі, небыліцамі і прыпеўкамі на самыя разнастайныя тэмы.*

*Рэдакцыя віншуе шаноўнага Віктара Аляксандравіча, даўняга і шчырага прыхільніка «Вожыка», з прыемнай творчай падзеяй і жадае моцнага здароўя, мастацкага плёну ды шчырых усмешак!*




## «Міліцыя! Бомбы кідаюць!»

Адбылося гэта ў адной з вёсак Акцябрскага раёна. Старшыня сельскага савета асвежаваў надвячоркам ладнага вепручка. А якая ж свежаніна без чаркі? Тым болей, у былога камандзіра партызанскага атрада, прадстаўніка мясцовай улады на вёсцы. Таму сядзелі за сталом ягоны сакратар, старшыня калгаса, ляснічы ды апетытна ўпляталі скваркі, наліваючы з вялікага гляка раз за разам у шклянкі «першаку».

І калі хата заспявала, затанцавала, загула і зарагатала, на кухні прагучаў страшэнны выбух. Цагліны з печы ледзь дах не знеслі.

Старшыня сельсавета дзіка закрычаў у тэлефонную трубку:

– Міліцыя! Бомбы ў хату кідаюць. Ратуйце!..

З райаддзела міліцыі выехала ажно дзесяць чалавек. Аператыўнай групай кіраваў сам начальнік. Якім жа было яго здзіўленне, калі замест бомбаў і разбойнікаў яны знайшлі ў сенцах мех аманалу і дзве гранаты. Гэта старшыня сельсавета з сябрукамі збіраліся рыбу на Пцічы глушыць. Каб лепш узрыўчатка спрацавала, вырашылі яе падсушыць. У выніку – выбух. А ён у п'яных галовах вунь якога шуму нарабіў...

Парсюка даядалі сумесна з работнікамі міліцыі. І «пяршак» разам дапівалі. Выбух жа «кваліфікавалі» як разрыў снарада, што засеў у ства-




Работа ў камандзе вельмі важная. Яна дазваляе зваліць віну на іншага.

*Восьмае правіла Фінгейла*

Калі б вы ні пастрыглі пазногці, праз гадзіну яны вам спатрэбяцца.

*Закон Уітэна*

Першыя 90 працэнтаў работы адымаюць 10 працэнтаў часу, а апошнія 10 працэнтаў – тыя 90 працэнтаў часу, што засталіся.

*Правіла тэрмінаў выканання праекта*

Вам заўсёды будзе не хапаць альбо часу, альбо грошай.

*Следства Лермана*

Усялякая работа лёгкая для чалавека, які ёй не займаецца.

*Закон Холта*

Патрэбна пастукаць па дрэве – выяўляецца, што свет складаецца з алюмінію і пластыку.

*Закон Флага*



ле дрэва, якое спілавалі на дровы і кінулі з цурбалкам у печ.

Ды хіба абдурыш вяскоўцаў? Між сабой яны так і сталі называць старшыню сельсавета – «Міліцыя! Бомбы кідаюць!»

### Судзіць рэдактара!

У канцы пяцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя я працаваў у капаткевіцкай раённай газеце. Аднойчы рэдактар – Канстанцін Васільевіч – параіў падабраць у суботні нумар парады народнай медыцыны. Была позняя восень, і многія хварэлі. Я дзесьці вычытаў, што лепшы сродак ад прастуды – часнок. Трэба толькі ачысціць яго і закласці ў кожную ноздру па зубку.

Гэтую інфармацыю і надрукавалі.

А ў панядзелак раніцай залятае ў кабінет рэдактара жонка сакратара райкама партыі і тыцкае ў нос газетай:

– Ты – злачынца, судзіць цябе трэба! Жывую хацеў у магілу загнаць!

Высветлілася, што кабета ахвотна прыслухалася да парады народнай медыцыны і засунула сабе ў кожную ноздру па ладнаму зубку часнаку. А тыя і каўзануліся далей у нос. Беднай ажно дых заняло. Усім кагалам урачы раённай бальніцы ратавалі сакратарову жонку.

Рэдактара, праўда, не судзілі. Але яму паступіў катэгарычны загад першага сакратара РК КПБ: «Калі яшчэ хоць раз такое паўторыцца – звольнім з работы».



*«Гумар «на пасашок», Магілёў, 2015 г.*





Малюнкі Аляксандра ПЯТРОВА.

## ЁЛКІ ПАЛКІ!

Карыкатурыст Сяргей ЁЛКІН – адзін з самых прыкметных, пазнавальных і пладавітых мастакоў Расіі. Ён шмат ствараў для агенцтва «РИА-Новости», работы друкаваліся на старонках многіх папяровых і электронных СМІ.

Ёлкін умее маляваць на любыя тэмы, цікава і вельмі адметна.









# Які хаўрус, такі прымус

*Байка*

Мядзведзю падалі данос,
Што Воўк усюды суне нос,
Што немагчыма мірна жыць –
Разбоі чыніць, крадзяжы.
Як выслухаў Мядзведзь звяроў,
Ад гневу на ўвесь лес зароў:
– Убачыць злодзея хачу,
Яму я рэбры палічу!
Ды словы гэтыя – мана,
Бо прывалок Воўк барана.

Да самай раніцы Мядзведзь
з Ваўком гулялі
І барана ўдваіх асвежавалі.
Мядзведзь цяпер і рота не раскрые:
За першым бараном пайшлі другія.
Але з'явіўся ў лесе паштальён,
Прынёс ён ад цара звяроў закон:
За хабар і разбой усіх караць.
Хай на дабро чужое не глядзяць.

* * *

Калі рабіць, як Воўк або Мядзведзь,
Таксама будзеш у турме сядзець.

**Уладзімір ЛАБКО,**
*г. Слонім.*



# Ідэальная жонка



Аднойчы сон убачыў я
Якраз пад самы ранак,
Што жонка ідэальная
Ў мяне заместа Мані.
Прыйшоў з работы, паглядзеў –
Вачам сваім не веру:
Мяне чакае на стале
Шыкоўная вячэра.
Сярод прысмакаў, далібог,
Красуецца і пляшка.
Паверыць, здзіўлены, не мог,
Што гэта ўсё не казка.
Марфею я хацеў аддаць
Яшчэ гадзін дванаццаць,
Ды Маня пачала крычаць,
Даваць мне прачуханца:

– Гэй, хопіць, абібок, ляжаць!
Ці мала табе ночы?
Палавікі павыбіваць
На вуліцы не хочаш?
Такія вось рэаліі...
І стала ясна мне,
Што жонкі ідэальныя
Бываюць толькі ў сне.

**Васіль МАКАРЧУК,**
*Пружанскі раён,*
*в. Лінова.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Андрэя СІДАРЭЙКІ.










# Прыпеўкі



Любім нашых гарманістаў,
Бо спяваюць звонка, чыста.
Завадны яны народ,
П'юць гарэлку, як кампот.

* * *

Мой мілёнак — прыгажун,
Лысінаю свеціць.
Весялун і балбатун,
Лепшы ў цэлым свеце!



* * *

Дні бягуць, мінаюць тыдні,
Маладосць, як сон, ляціць.
Дзе гуляюць хлопцы-злыдні?
Надта ж замуж мне карціць!

* * *

Трэба бульбу выбіраць —
Ты слабая, кволая.
А як з хлопцамі гуляць —
Моцная, вясёлая.

**Праспявала**
**Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*

Пасадзіла куст маліны
Ды не буду паліваць,
Бо падстрыг мілы чупрыну
І не хоча цалаваць.

**Пачуў Мікола КІСЕЛЬ,**
*г. Мінск.*




Лабарантка наша Ала
Навічка крытыкавала.
Як сказалі, чый ён зяць, —
Перастала «наязджаць»!

* * *

Наш шэф ніколі не гаруе.
Калі да плана не хапае,
Як трэба, ён адрапартуе:
Ці «дамалюе», ці «схавае».

**З вуснаў**
**Святланы БЫКАВАЙ,**
*г. Заслаўе.*



# Анекдоты

— Каханы, я сёння прысніла, што ты падарыў мне на свята прыгожыя каралі...

— Будзеш добра сябе паводзіць, я табе і футра норкавае ў сне куплю.

* * *

Пасля таго, як маленькі Віця навучыўся лічыць, тату давялося дзяліць пельмені пароўну.

* * *

Паважаныя жыхары! Заўтра з 8:00 да 20:00 у вас будзе цудоўная магчымасць не мыць посуд.

* * *

— Я ўчора знайшоў тэлефон.

— І што зрабіў?

— Выкінуў.

— Чаму?!

— Ён быў без кнопак ды яшчэ з нейкім надкушаным яблыкам, намаляваным на звароце...

* * *

Мужчыны часта маўчаць, бо прытрымліваюцца двух прынцыпаў:

1. І так усё зразумела, што тут казаць?

2. Што тут казаць, калі нічога не зразумела?

* * *

Думкі сабакі: «Гаспадар мяне любіць, корміць, даглядае. Напэўна, ён бог».

Думкі ката: «Гаспадар мяне любіць, корміць, даглядае. Напэўна, я бог».

* * *

— А я мужа ўчора застукала... Гэты нягоднік маім катом свой ноўтбук праціраў!

* * *

— Суп сённяшні ці ўчарашні? — пытае муж жонку за абедам.

— Я табе болей скажу: ён яшчэ і заўтрашні...

Вернісаж



Малюе Алег ПАПОЎ















## Графікі для разумення гэтага свету

Ёміста выказаць сваю думку – сапраўднае мастацтва. Ім бясспрэчна валодае інфаграфіка, якая наглядна, ярка паказвае суадносіны прадметаў і фактаў у часе і прасторы.

Здаецца, разглядаць такія графікі можна бясконца. Асабліва калі яны датычаць нас з вамі.






Іван ПЯШКО

# Аперацыя «Корак»

*Гумарэска*

Пазачарговае пасяджэнне кіраўніцтва паўзакрытага акцыянернага таварыства «Факел» адкрыў старшыня Алесь Галава, хударлявы мужчына інтэлігентнага выгляду.

– Паважаныя калегі, я павінен паведаміць вам, што да нас едзе... сам Бабіцкі.

З усіх бакоў пачулася:

– Ого-го!..

– Нічога, сустрэнем!

– Маем вопыт.

– Зробім па вышэйшым разрадзе!



Пасыпаліся прапановы:

– Выедзем на прыроду...

– Шкада, учора гарэлка падаражала...

– Скрыня засталася з апошняга юбілею!

– Якой маркі? – пацікавіўся Галава.

– Мажэйкаўскага «Панскага дома».

– Не падыходзіць. Панскі... – хмыкнуў ён і адмоўна пакруціў галавою.

– Не праблема. Купім «Мінскай», «Крышталю», – прапанаваў намеснік старшыні Пятро Шуст.

– Лепш «Брэсцкай», яна на смак мяккая, – крыкнуў нехта.

– Зноў не тое, – паморшчыўся старшыня. – Трэба «Віцебскай». Усе ведаюць, што Бабіцкі ўжывае толькі такую.

– Не ехаць жа нам ажно ў Віцебск...

– Ёсць ідэя, – падаў голас Васіль Іванюк, начальнік аддзела. – У пункце прыёму шклотары купіць пустых бутэлек з-пад віцебскай гарэлкі ды пераліць туды той жа «Панскі дом».

– А дзе ўзяць металічны корак? – адразу спытаў Шуст.

– Ну, тады я здымаю сваю прапанову, – пакрыўдзіўся Іванюк і сеў на месца.

Падняўся Адась Конюх, другі намеснік дырэктара.

– Ідэя Іванюка слушная. Яе можна ажыццявіць пры адной умове: калі мець у наяўнасці хоць адну бутэльку «Віцебскай». Бабіцкі яе вып'е. Ну, а далей не будзе ж ён правяраць коркі наступных бутэлек. Правільна? – і задаволена ўсміхнуўся. – Аперацыю пад назваю «Корак» я бяру на сябе. Мой сусед па дачы штогод адпачывае на Браслаўскіх азёрах. Вяртаецца адтуль з рыбай і скрынкай гарэлкі віцебскага разліву. Папрашу пазычыць, не адмовіць...

– Што ж, – падвёў вынікі Галава, – галоўнае па падрыхтоўцы да выканання аперацыі «Корак» мы абмеркавалі. Застаюцца дэталі: выбраць паляўнічы домік, дзе адбудзецца сустрэча, арганізаваць рыбную лоўлю, шашлык і іншыя дробязі.

Нечакана дзверы залы пасяджэнняў адчыніліся і ўвайшла сакратарка:

– Прабачце, але тэрміновы званок. Міжгорад.

Старшыня адсутнічаў не больш за пяць хвілін. Вярнуўся ён радасны.

– Паважаныя калегі, я павінен вам паведаміць, што да нас... не прыедзе Бабіцкі! У вобласці прайшла нарада, падчас якой яго пазбавілі пасады.

– Эх, шкада, такая аперацыя сарвалася! – незадаволена загудзелі ўдзельнікі пасяджэння. – Толькі людзей ад працы адрываюць!..



*г. Шчучын.*






*РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» прапануе*




## «Ці далёка да Афрыкі?»

*Аўтар гэтай кнігі казак – украінскі пісьменнік, літаратуразнаўца, крытык Міхайла СЛАБАШПІЦКІ, які шмат піша для дзяцей. Герой яго твораў – дапытлівы хлопчык Слаўка Бондар, што марыць пра Афрыку, дзе «...ў рэчках плаваюць кракадзілы, ходзяць пад спякотным сонцам сланы, ястрабамі гойсаюць па гушчарах тыгры, леапарды і пантэры... Вось там сапраўднае жыццё!»*

*Але і тут, дома, хапае прыгод: хлопчык вучыцца ў школе, моцна прывязваецца да каня Каштана, чакае з геалагічнай экспедыцыі бацьку, які прывозіць яму папугая жако, прыглядае ў спёку за дрэвам на тратуары, знаёміцца з верабейкам Цінь-Цвірынь і ратуе яго ад ката, наведвае заапарк, дзе мноства розных звяроў і птушак...*

*Выданне цудоўна афарміла мастачка Алена Лось. Адрасуецца дзецям малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту.*

*P. S. Кнігу можна набыць у аддзеле рэалізацыі альбо атрымаць па пошце. Тэлефоны для даведак: 8(017) 288-12-94, 284-79-85.*

**Міхайла СЛАБАШПІЦКІ**

# НАШЧАДАК ТАРПАНАЎ

*(Урывак з казкі)*

...Бацькі ўжо не сварыліся на яго за тую дзіўную дружбу з Каштанам. Пабачыўшы тады, як абдымаў соннага каня ля рэчкі, перапужаліся. Маці і дагэтуль адысці не можа, як тое згадае.

– Цябе нельга без нагляду пакідаць. Заўжды знойдзеш на сваю галаву прыгоды. Упершыню пабачыў каняку і давай з ім абдымацца. А як цапнуў бы?

– Не цапне, – упэўнена вымавіў Слаўка.

– Адкуль ты ведаеш?



— А так і ведаю. Ён, па-першае, мірны і лагодны конь, а па-другое, коні спераду ніколі не цапаюць.

— Падумаць толькі: няшчаснае дзіця асфальту пабачыла каня і не пабаялася да яго падысці, — у каторы ўжо раз дзівілася маці.

— А чаго мне пужацца? То ж конь, а не тыгр ці леапард, напрыклад. Коні ж такія разумныя!..

— Адкуль табе ведаць, якія яны разумныя!..

— А я чытаў. Чытаў і пра арабскіх скакуноў, і пра данчакоў, і пра каня Пржавальскага, і пра тарпанаў. А ты, можа, ведаеш, напрыклад, што такое кватэрхорс?

— І што ж гэта такое? — зніякавела маці.

— Гэта парода коней, якія выведзены ў амерыканскіх штатах Караліна і Віргінія. Іх яшчэ называюць каўбойскімі коньмі. Перад нашай паездкай у вёску па тэлевізары паказвалі радэа...

— Ты ў нас конская энцыклапедыя, — засмяялася мама і махнула рукою. — Выхоўвай ужо свайго мустанга.

— Не мустанга, а тарпана.

— Хіба не ўсё адно?

— Гэта розныя рэчы, — аўтарытэтна патлумачыў Слаўка, — і іх нельга блытаць. Ты ж не называеш сенбернара фокстэр'ерам?

— Дык гэта ж — сабакі...

— А гэта — коні. І яны, дарэчы, такія ж разумныя, як і сабакі.

— Няхай будзе грэчка, — сказаў бацька і ўтаропіўся ў экран тэлевізара, дзе пачынаўся футбол.

— Вось так заўсёды: аднаму — футбол, другому — конь, а я не ведаю, дзе сябе і дзець!

Слаўка падумаў трошачкі, што б параіць маме, а пасля сказаў:

— Купі сабе сенбернара, возьмеш яго на прагулку.

— Яшчэ сенбернара мне да вас не хапала!

А Слаўка ўжо выскачыў з хаты. Пабег да калгаснага двара, бо падумаў, што Каштан засумаваў там без яго.

*Пераклад з украінскай*
*Алеся КАРЛЮКЕВІЧА.*















# Кампрамат і адклад

Да Марыны і Анэлі
На спатканне я пайду.
Да Марыны – ў панядзелак,
Да Анэлі – ў сераду.
У аўторак я ў Тамары
Цешуся: эх, прыгажосць!
З Настай у чацвер памарым,
Пятніца – я Юлін госць.
Выхадныя ж варта мілай
Жонцы Любе мне аддаць,
Бо сям'я – грамадства сіла,
Трэба сілу паважаць.

Цяжка штось не пераблытаць
Ў шчыльным графіку маім,
Запісаў таму я ў сшытак
Дні сустрэч: калі і з кім.
Толькі раптам мая жонка
Прачытала гэты спіс
І пайшла крычаць-галёкаць,
Пераходзячы на піск.
Сшыткам злосна б'е па твары:
– Гэта табе за Тамару,
За Анэлю, за Настулю,
За Марыну ды за Юлю!
А цяпер – за панядзелак,
За аўторак, сераду...
Ледзь са страху не samleў я.
Паравёў нарэшце дух –
Зразумеў: свае залёты
Адкладу, відаць, на потым...



**Дзмітрый ДЗЕМІДОВІЧ,**
*г. Мінск.*



Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Андрэя СІДАРЭЙКІ.














## Казка пра белага бычка

**У Пінску затрымалі мужчыну, які падманам завалодаў грашыма даверлівых знаёмых. За два гады ён змог «выцягнуць» з іх больш чым 130 тысяч долараў.**

На што толькі гэты «казачнік» не прасіў грошай! На развіццё бізнесу па прыгоне аўтамабіляў, на пакупку сельскагаспадарчай тэхнікі, на прадстаўленне зямельных участкаў для будаўніцтва жылля...

Пакуль выяўлена дзесяць пацярпелых. Вядзецца следства. Калі ж людзі перастануць слухаць казку пра белага бычка?

## Азарт, табака і нюх

**Дырэктар гродзенскай фірмы год таму шляхам махінацый выкраў у адной абласной арганізацыі прадукцыі на суму звыш 1 мільярда 420 мільёнаў рублёў.**

У злодзея два разы атрымалася падрабіць дакументы на адгрузку тытунёвых вырабаў. Грошы за іх рэалізацыю ён паклаў сабе ў кішэнь, каб потым... прайграць у казіно.

Узбуджана крымінальная справа. Азартнаму прадпрымальніку пагражае да дзесяці гадоў зняволення з канфіскацыяй маёмасці. Вось так можна прапасці ні за нюх табакі.




## Ні ў пяць, ні ў дзесяць

**Часцей за ўсё кішэнныя крадзяжы ў пасажыраў сталічнага метро злодзеі здзяйсняюць на пяці станцыях.**

Найбольшай папулярнасцю ў злачынцаў карыстаюцца прыпынкі: «Каменная горка», «Інстытут культуры», «Плошча Леніна», «Пятроўшчына» і «Пушкінская». Звычайна мабільныя тэлефоны ды кашалькі знікаюць з кішэняў і сумак пасажыраў у прамежак часу з 14.00 да 22.00.

Міліцыянеры ведаюць гэтыя станцыі як свае пяць пальцаў. Неўзабаве да іх можа дабавіцца і яшчэ адзін «перст» — станцыя «Малінаўка», канцавая на першай лініі і даволі шматлюдная.

Сочым за рэчамі і лічым пальцы!

## «Пазалаціла ручку»

**Каб «зняць сурокі», мінчанка аддала цыганцы грошы і каштоўнасці на агульную суму 150 мільёнаў рублёў.**

Жыхарка сталіцы сустрэла цыганку на прыпынку грамадскага транспарту. Тая расказала, што ад усіх яе няшчасцяў можа дапамагчы адзін тэрміновы абрад. Для яго патрэбны грошы, вада і каштоўнасці.

Праз дзве гадзіны яны зноў сустрэліся, але ўжо на Кальварыйскіх могілках. Жанчына прынесла з дому ўсё неабходнае. Сурокі былі знятыя. Заставалася «пачысціць» каштоўнасці. Сустрэчу прызначылі назаўтра...

Мінчанка да гэтага часу «стала відушчай» і кінулася ў міліцыю. Варажбітку — грамадзянку суседняй краіны — у хуткім часе затрымалі. Мяркуецца, што пацярпелая можа быць не адзінай, хто «пазалаціў ручку» цыганцы і застаўся без грошай. Таму абачліва паводзьце сябе на прыпынку, а таксама на могілках...



*Па матэрыялах Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, інфармацыйнага парталу tut.by.*












**Анекдоты**
**ад Лідзіі Васільеўны ПОЛАЗАВАЙ,**

бібліятэкара аддзела абслугоўвання і інфармацыі Наваполацкай цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя У. Маякоўскага

У акцёраў тэатра Юрыя Куклачова самая вялікая колькасць парушэнняў працоўнай дысцыпліны прыпадае на сакавік.

* * *

Цяпер у краме, гледзячы на састаў прадукта, і не зразумееш, у якім ты аддзеле: прадуктовым ці бытавой хіміі.

* * *

– Доктар, здаецца, мне патрэбныя акуляры.
– Яны вам дакладна патрэбныя, бо гэта банк.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.

«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 4 (1519), 2015 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.
Рэдакцыйная калегія: Анатоль АКУШЭВІЧ, Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ПІРГЕЛЬ, Тамара ДАНІЛЮК, Валянціна ДУБРОВА, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Уладзімір МАТУСЕВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ.
Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Ганна КІСЛУШЧАНКА, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры)*.
Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zvyazda.minsk.by.
Паштовы адрас: 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.ru
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.
Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ
Камп'ютарная вёрстка: Святлана ТАРГОНСКАЯ
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ
Падпісана ў друк 07.04.2015. Фармат 60х84 $^1/_8$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,31. Тыраж 1489 экз. Заказ .
Кошт нумара ў розніцу 16 800 руб.
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск.





Хто можа – той робіць. Хто не можа – вучыць.
Дапаўненне студэнтаў: хто не можа вучыць – вучыць, як вучыць.

*Закон Дж. Б. Шоу*

Любы загад, які можна няправільна зразумець, разумеецца няправільна.

*Армейская аксіёма*

У самага цікавага экспаната не бывае таблічкі з назвай.

*Закон заапаркаў і музеяў Джоўнса*

Людзі згодныя выконваць любую складаную работу, калі ў гэтым ужо няма патрэбы.

*Закон добраахвотнай работы Зімергі*

Вопыт расце прама прапарцыянальна выведзенаму са строю абсталяванню.

*Пастулат Хорнэра*

Чалавек, які мае адзін гадзіннік, дакладна ведае, каторая гадзіна. Чалавек, які мае некалькі гадзіннікаў, ні ў чым не ўпэўнены.

*Закон Сегала*



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.






Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Малюнак Ганны КІСЛУШЧАНКІ.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Руслана БОГУША.




Колькі ж ёсць рэчаў, без якіх можна жыць!

Сакрат,
старажытнагрэчаскі філосаф

## Гэта я...

Часам паводзіны жывёл практычна нічым не адрозніваюцца ад чалавечых.

Паглядзіце ўважліва: вы не пазналі на фота сябе?



Гэта я крыху набраў вагі за зіму.



Гэта я пішу курсавую.



Гэта я прашу астыць — яна ўжо зрабіла выбар.

Малюе Павел ГАРАДЦОЎ
















## ВОЖЫКАЎСКІ ПЛАКАТ




Малюнак Аляксандра ШМІДТА.

ЧЫТАЙЦЕ!

## У наступным нумары:

Чаму нельга злоўжываць бярозавым сокам?

Што здарыцца, калі паўсюль знікне інтэрнэт?

Як абмяняць мабільны тэлефон на катэдж?

*І многае-многае іншае! Да сустрэчы!*

---

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844**,

**індывідуальны льготны** (для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ведамасны льготны** (для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**




**Лепш для душы «Вожык» выпішы!**

**ПАДПІСКА НА І ПАЎГОДДЗЕ 2015 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**

індэкс 74844, цана 29100 рублёў,
індэкс 01380, цана 23200 рублёў,
індэкс 748442, цана 79000 рублёў,
індэкс 01381, цана 62300 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**




